**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№15(679)**
**11 красавіка 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



## Апошні зімовы клёў сезона 2012-2013



**Адзіны вадаём на Глыбоччыне, дзе дазволеная рыбалка пасля 1 красавіка – вадасховішча ля вёскі Азерцы, якое клічуць у народзе «Дамба». Кошт квітка за наведванне вадаёма – 20 тыс. рублёў. Нядорага!**

■ **Уладзімір Скрабатун**

Нечакана запозненая вясна прынесла сумятню ў меркаванні рыбаловаў-аматараў: трэба было, ці не трэба, уводзіць забарону на аматарскае рыбалоўства з лёду з 1 красавіка 2013г.? Было ж бачна, яшчэ за тыдзень да ўводу абмежаванняў, што рэальная вясна прыйдзе ў сярэдзіне красавіка на тры тыдні пазней, чым звычайная, і доўгатэрміновыя прагнозы таму сведчылі. Маглі ж улады выдзеліць у межах горада хоць адно возера, напрыклад, Мушкат, альбо Вялікае (Беразвецкае), дзе і пасля 1 красавіка можна было б вольна лавіць рыбу? Урону рыбным запасам – аніякіх, а вось страты ад зацяжной зімы могуць быць і каласальныя. Такое меркаванне рыбаловаў-аматараў. Магчыма, у будучыні, калі «малы ледавіковы перыяд» будзе доўжыцца штогод, будуць зробленыя пэўныя саступкі рыбаловам.



**Мабільны пункт аплаты квіткоў за лоўлю рыбы на вадасховішчы ля в. Азерцы працуе ад 5-й раніцы.**

Аднак, ёсць на Глыбоччыне адзін вадаём, дзе і пасля 1 красавіка можна вольна лавіць рыбу, праўда, купіўшы квіток коштам у 20.000 рублёў. Пры цяперашніх коштах – амаль задарма! Гэта – разлеглае вадасховішча ў басейне ракі Дабрылаўкі паміж Кісарэўшчынай і Азерцамі.

Мы наведалі згаданы вадаём у мінулую нядзелю. Ад асноўнай шашы ў бок вадаёма (каля 1 км) даезд расчышчаны ад снегу, расчышчанае і месца стаянкі для аўтамабіляў. Рыбакоў на лёдзе – шмат, добрая сотня! Здымак уверсе - гэта толькі фрагмент.

Добрае сонечнае надвор'е, свежае паветра, выдатны адпачынак! Праўда, клёў не быў такім актыўным, як бы гэтага хацелася. Ну, гэта ж таксама – наступствы зацяжной зімы. Аўтар гэтых радкоў злавіў, усё-такі, два дзясяткі акунькоў і адну плотку, а некаму пашанцавала вылавіць і ладных акунёвыя экзэмпляры.

Добры клёў яшчэ наперадзе! Пачакаем сыходу снегу і паступлення свежай вады ў вадаём. Карась ачуняе ад зімовай спячкі...

Полацкі раён

# Хто шукае, той знаходзіць

■ Чэслаў Якубовіч

**Калі большасць айчынных вытворцаў толькі пачынаюць задумвацца аб правядзенні мадэрнізацыі і тэхпераўзбраенні, то прадпрымальныя беларусы гэтым займаюцца пастаянна.**

Вось і ў Наваполацку вядомая прыватная фірма "Белсплат" некалькі месяцаў назад адкрыла свой новы суперсучасны завод па вытворчасці стальных дзвярэй. На камп'ютарнай тэхналагічнай лініі з Італіі цяпер у месяц можна выпускаць да 6 тысяч адзінак вырабаў з высокімі супрацьпажарнымі якасцямі. Мадэльны рад дасягае 20 відаў дзвярэй, якія не прапусцяць унутр памяшкання і нават ядавітыя газы. Сучаснае абсталяванне дазволіла эканоміць сыравіну і кошт гатовай прадукцыі знізіўся да 20 %. Для новай вытворчасці кіраўніку фірмы Васілю Чычыкайла прыйшлося ўкласці 7 млн. заробленых еўра. Аднак на дасягнутым калектыў спыняцца не збіраецца. ААТ "Белсплат" выкупіў на аўкцыёне былы корпус невыкарыстоўваемага прафілакторыя мясцовага завода БВК у маляўнічай мясцовасці на беразе Заходняй Дзвіны. Адна з вядучых у краіне фірм па вытворчасці дзвярэй і дамафонных сістэм вырашыла на гэтай базе абсталяваць свой санаторый-прафілакторый для аздараўлення да 100 чалавек у змену. Яму прыдумалі ўжо назву "Крыніца" і гатовы ўкласці ў аснашчэнне здраўніцы яшчэ да 2 млн. еўра. З цягам часу сюды будуць запрашаць як беларускіх, так і замежных грамадзян. У першую чаргу ў новым санаторыі з дзеючай свідравінай гаючай мінеральнай вады адпачнуць і самі каля чатырохсот работнікаў фірмы і члены іх сем'яў.

Пастаўскі раён

# Сцяжынкамі славутых продкаў

■ Кастусь Александровіч

**У чарговы раз сёлета падчас урачыстасцей з нагоды светлага свята Уваскрасення Хрыстова па вуліцах гарпасёлка Лынтупы Пастаўскага раёна і ваколіц прайшоў тэатралізаваны Крыжовы шлях-містэрыя.**

Адну з галоўных ролей у хвалюючым прадстаўленні з распяццем Езуса выканаў мясцовы пробашч парафіі, ксёндз Павел Кнурэк, які арганізаваў тут тэатр пры храме. Дарэчы, мясцовы касцёл святога апостала Андрэя ніколі не зачыняўся, нават у самыя страшныя гады ваяўнічага атэізму. Дайшло да таго, што ў 1959 годзе невядомыя мярзотнікі забілі ноччу тагачаснага святара. Тое злачынства так і не было раскрыта, але духоўнае жыццё не прыпынілася, калі на нейкі час не стала ксяндза. А зараз пры храме дзейнічае і нядзельная школа, а пад кіраўніцтвам айца Паўла дзеці і дарослыя сабралі шмат унікальных матэрыялаў пра гісторыю краю і людзей, якія тут жылі. У касцёле ўжо столькі рарытэтаў, што можна адкрываць цэлы краязнаўчы музей. Сюды людзі знайшлі і прынеслі цымбалы, якім больш 150 гадоў, кандэлябр з гербам знакамітага айчыннага роду Радзівілаў, розныя даваенныя і царскія грошы, іншыя дакументы і рэчы народнага побыту. Шмат чаго цікавага і павучальнага можна даведацца з сабраных царкоўных архіваў з запісамі шлюбаў, народжаных, ахрышчаных і памерлых. Дарэчы, у суседнім мястэчку Камаі пры храме Іаана Хрысціцеля 1603 года пабудовы таксама шмат робіцца па ўшанаванні памяці сваіх знакамітых землякоў. Яго пробашч Яцэк Хутман днямі арганізаваў і правёў дзень памяці вядомага святара і паэта Казіміра Сваяка, які пачынаў душпастырскую дзейнасць Госпаду і людзям у гэтай мясцовасці.

Глыбоцкі раён

# За здаровы лад жыцця

■ Станіслаў Раманчук

**Не сакрэт, што сучасныя дзеці, асабліва гарадскія, сталі не такія здаровыя і актыўныя, як раней, калі практычна ўвесь свой вольны час праводзілі на лыжах, вадаёмах, спартыўных пляцоўках.**

А вось у Глыбокім апошнім часам здольным да спорту падлеткам і трэніравацца было складана, паколькі зачынілася на рэканструкцыю гульнявая зала мясцовай СДЮШАР алімпійскага рэзерву. Дагэтуль тут у некалькі этапаў здалі ў эксплуатацыю па суседстве гарадскі стадыён з бегавымі дарожкамі, футбольным полем – лепшы спорткомплекс сярод райцэнтраў вобласці. Сёлета напрыканцы сакавіка абноўленая база глыбоцкай спортшколы, у якой асноўныя аддзяленні лёгкай атлетыкі, валейбола, футбола, займела праз 2 гады нармальныя ўмовы для падрыхтоўкі класных спартсменаў, якія змогуць потым зарэкамендаваць сябе ў спорце высокіх дасягненняў. З гэтай адметнай падзеяй павіншавалі юных глыбачан, калектыў трэнераў СДЮШАР не толькі ганаровыя госці цырымоніі, але і міністр спорту і турызму Беларусі А. Шамко. Асабліва прыемна ўсім прысутным было пачуць і віншаванне ад спартыўнай зоркі, бронзавага прызёра Лонданскай Алімпіяды Марына Шкерманковай, якая некалі тут пачынала свой шлях да міжнародных вяршынь прызнання. На давядзенне да ладу спорткомплекса ў Глыбокім было патрачана з розных крыніц больш 15 млрд. рублёў, але гэтыя сродкі акупяцца, бо даражэй за здароўе нічога няма. У калектыве спецыялізаванай спортшколы сёлета разлічваюць прыняць на працу яшчэ некалькі маладых трэнераў і спадзяюцца павялічыць набор таленавітых юных спартсменаў.

# Аб самым надзёным

## АЎТАРЫТАРНЫМ СІСТЭМАМ І НАВАТ ХАРЫЗМАТЫЧНЫМ ЛІДАРАМ НІДЗЕ ПАКУЛЬ НЕ ЎДАЛОСЯ ПАБУДАВАЦЬ ЛЮДЗЯМ СВЕТЛУЮ БУДУЧЫНЮ



■ Аляксандр Цішкевіч

**Вельмі верагодна, што перамогу на датэрміновых прэзідэнцкіх выбарах 14 красавіка атрымае былы шафёр, палітык зусім без адукацыі Ніколас Мадура. Цікава, што зараз асобныя прадстаўнікі штаба яго галоўнага канкурэнта, губернатара штата Міранда Энрыке Капрылеса заклікаюць аб перадачы ўлады прыхільнікам памерлага "камандантэ".**

Пачатак сёлетняй вясны запомніцца беларусам надзвычай халодным працягам зімы амаль на цэлы месяц. Значна меней будуць памятаць неўзабаве людзі аб працяглай цырымоніі развітання з вялікім сябрам беларускага народа, былым дэсантнікам і лідарам далёкай Венесуэлы Уга Чавесам, у якой удзельнічала больш 2 млн. чалавек. Зараз у свеце таксама цікавяцца, хто ўзначаліць гэту багацейшую вуглевадародамі краіну і ці прадоўжыць яна будаваць у сябе сацыялізм са спецыфікай XXI стагоддзя.

Вельмі верагодна, што перамогу на датэрміновых прэзідэнцкіх выбарах 14 красавіка атрымае былы шафёр, палітык зусім без адукацыі Ніколас Мадура. Цікава, што зараз асобныя прадстаўнікі штаба яго галоўнага канкурэнта, губернатара штата Міранда Энрыке Капрылеса заклікаюць аб перадачы ўлады прыхільнікам памерлага "камандантэ". Іх аргумент такі: за час праўлення Чавеса з 1999 года эканоміка краіны наблізілася да краху і хай яны з гэтым самі разбіраюцца. І такія высновы цалкам апраўданыя, паколькі верагоднасць дэфолту ў Венесуэле ў бліжэйшыя 2 гады вельмі верагодная.

Справа ў тым, што эканоміка гэтай краіны, якая рэалізуе з Беларуссю некалькі сумесных праектаў на 2-3 мільярды долараў, цалкам і поўнасцю залежыць ад продажы нафты. Ад продажы энерганосьбітаў венесуэльцы маюць да 90 % паступленняў валюты ў дзяржбюджэт. Аднак Каракас практычна дарма аддае ў крэдыт пад сімвалічныя працэнты нафту і газ Кубе і Балівіі, пастаўляе іх Сірыі, дапамагае Ірану, нарошчвае свае ваенныя расходы для барацьбы з "амерыканскім імперыялізмам" і вымушаны браць пазыкі за мяжой.

Праўда, пры гэтым памерлы іх прэзідэнт-папуліст спрабаваў вырашыць праблему беднасці. Па яго ных праграмах, колькасць абяздоленых з амаль паловы насельніцтва, сапраўды, скарацілася за 10 гадоў да 29,5 % у 2011 годзе. Без затрымак, як раней, старыя сталі атрымоўваць пенсіі. Бедныя – субсідыі на абзавядзенне жыллём, ім сталі прадаваць кітайскія тэлевізары і іншую бытавую тэхніку па нізкіх, сацыяльных цэнах. Аднак адначасова сталі расці і эканамічныя цяжкасці, штогадовая інфляцыя наблізілася да 30 %.

Сведчаннем існуючых цяжкасцей стаў там адзін з самых нізкіх у свеце ўзроўняў злачыннасці на фоне росту карупцыі. Гэта вам не жартачкі, калі летась у Венесуэле было зарэгістравана больш за 16 тысяч забойстваў людзей. Гэта ці не абсалютны сусветны "рэкорд" ды і сёлета за два месяцы, калі Чавес паміраў у мучэннях ад раку, тут зарэгістравалі яшчэ 2576 забойстваў ( у Беларусі за год фіксуецца меней 400). Знайсці злачынцаў, як правіла, не ўдаецца, паліцыя не раскрывае 90 % крымінальных спраў. За апошнія 2 гады колькасць забойстваў тут узрасла яшчэ на 23 %. Гінулі на венесуэльскай зямлі і нашы спецыялісты нават днём, калі на іх нападалі рабаўнікі.

Пры гэтым венесуэльская валюта аслабела амаль на 50 %. Пасля серыі нацыяналізацый упалі аб'ёмы здабычы нафты. У краіне, якая магла б купацца ў золаце, дагэтуль на паліцах многіх магазінаў недахоп тавараў. У шэрагу выпадкаў нават харчавання было не дакупіцца, за што Чавес пры жыцці адразу ўсклаў віну на мярзотнікаў "спекулянтаў". Так і не ўдалося былому палкоўніку, які атрымоўваў усё больш і больш паўнамоцтваў і вёў краіну да аднапартыйнай сістэмы, стварыць на радзіме медыцынскія цэнтры і клінікі сучаснага ўзроўню.

Аднак ён прыдумаў шматгадзінныя тэле і радыёэфіры, стаў праводзіць рэферэндумы і дабіўся зняцця абмежаванняў на тэрміны знаходжання прэзідэнта пры ўладзе, за што выказаліся 54 % выбаршчыкаў. У пачатку сваёй кар'еры Чавес абяцаў рэформы, абмежаваў колькасць сваіх прывілей, прадаў свой прэзідэнцкі лімузін і частку авіяпарка і даў загад пералічваць большую частку сваёй зарплаты ў фонд адараных дзяцей. Аднак пры вялікіх магчымасцях за 14 гадоў практычна адзінаўладдзя Венесуэла прадэманстравала самыя нізкія параметры эканамічнага развіцця ў Лацінскай Амерыцы.

Ягоная "рэвалюцыйная сацыяльная палітыка" не прывяла да паляпшэння запушчаных інфраструктуры. "Тое, што было пры Уга Чавесе, будзе прадоўжана", - зараз адзін з галоўных дэвізаў перадвыбарнай кампаніі яго пераемніка. Нават пасля яго зыходу ў лепшы свет, не пакінулі цела жорсткага рэвалюцыянера ў спакоі, хоць ён прасіў сваіх аднадумцаў пахаваць у родным штаце Барынас. Але гэты запавет палкоўніка астаўся нявыкананым і перад "балівaрыянскай рэвалюцыяй" па-ранейшаму стаіць мноства складаных задач.

Надвор'е ў Глыбокім www. rp5ru

| | Чацвер 11.04.13 | | | | Пятніца 12.04.13 | | | | Субота 13.04.13 | | | | Нядзеля 14.04.13 | | | | Пнд.15.04.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +2 | +4 | +8 | +6 | +4 | +6 | +10 | +7 | +5 | +6 | +8 | +7 | +6 | +5 | +6 | +5 | +5 | +6 | +11 |
| Ціск | 747 | 747 | 747 | 748 | 746 | 746 | 746 | 747 | 746 | 746 | 747 | 749 | 749 | 751 | 754 | 757 | 758 | 760 | 760 |
| Вільготнасць | 82 | 91 | 68 | 69 | 79 | 92 | 68 | 71 | 71 | 84 | 94 | 88 | 88 | 98 | 95 | 89 | 86 | 93 | 65 |
| Вецер м/сек | 4 Пд-У | 5 Пд-У | 6 Пд | 6 Пд-У | 5 Пд | 6 Пд | 8 Пд | 7 Пд-У | 6 Пд-У | 8 Пд-У | 7 Пд | 5 Пд | 1 З | 2 Пн | 2 Пн | 1 Пн | 2 Пн-У | 1 У | 2 Пн |

## Дзень за днём

**Урад Беларусі паабяцаў сёлета ўтрымаць рост цэн на ўзроўні 12 % і не павышаць пакуль тарыфы на паслугі ЖКГ для стрымлівання інфляцыі. Да рэгулявання цэн падключыўся Нацбанк РБ, які паабяцаў у наступным годзе дэнамінацыю, калі сёлета ўдасца захаваць інфляцыю ў рамках прагнозу. Па ўзроўні заробкаў беларусы адкаціліся на 7-е месца ў былым СССР, аднак сталі абсалютнымі лідарамі ў свеце па колькасці атрыманых летась 693 тысяч шэнгенскіх віз. Колькасць суайчыннікаў, якія атрымалі від на жыхарства ў ЕС, за апошнія 3 гады падвоілася да 118 тысяч чалавек. На дарогах Беларусі зараз гіне людзей у ДТЗ у 2 разы болей, чым у ЕС.**

# Важнейшыя навіны свету

**Шатландыя.** На 18 верасня 2014 года прызначылі рэферэндум па пытанні аб прызнанні незалежнасці краіны ад Англіі, за гэта трэць шатландцаў, 25 % яшчэ не вызначыліся.

**Англія.** Шмат пытанняў выклікала раптоўная і незразумелася смерць на 68-м годзе жыцця былога ўплывовага і апальнага расійскага алігарха і палітыка Барыса Беразоўскага.

**Іран.** Працяг санкцый ЗША і ЕС, накіраваных супраць распрацоўкі ядзернай праграмы, прывёў да скарачэння экспарту іранскай нафты ўжо ў 2 разы, да 1мільёна барэлей у суткі.

**Грузія.** Дэпутаты парламента абмежавалі паўнамоцтвы прэзідэнта краіны ў частцы стварацъ урад без іх згоды, гэта прадухіліць магчымы палітычны крызіс і двоеўладдзе.

**Сербія.** Па дадзеных апошніх сацапытанняў, ужо 51 % сербаў жадаюць далучэння краіны да ЕС, супраць гэтага – 36 % насельніцтва, яны таксама супраць незалежнасці Косава.

**Ірландыя.** За 3 гады жорсткай эканоміі сродкаў урад вывеў краіну з крызісу, аднавіўся рост ВУП, ірландцы вярнулі давер інвестараў, зноў размясцілі на рынку свае аблігацыі.

**ЗША.** Пагроза банкроцтва паўстала для былой аўтамабільнай сталіцы краіны - горада Дэтройта, калі адсюль вывелі аўтазаводы, 40 % жыхароў апусціліся за рысу беднасці.

**Літва.** На паўгадзіны скараціўся рух цягнікоў Вільнюс-Мінск, пасажыры пагранічна-мытны кантроль сталі праходзіць на вакзале замест пагранічнай літоўскай станцыі Кяна.

**Кітай.** Адзін з буйнейшых сусветных вытворцаў сонечных батарэй, кампанія "Santex" аб'явіла аб сваім банкроцтве, калі яе даўгі перад банкамі перавысілі 1,1 мільярда долараў.

**ЗША.** Кампанія "Canon" распрацавала самую маленькую і лёгкую лічбавую фотакамеру ў свеце, яна з батарэяй важыць усяго 407 грам і змяшчаецца ў далоні карыстальніка.

**Карэя.** Кампанія "Samsung" прэзентавала ў Нью-Йорку свой новы галоўны смартфон Galaxy S IV, сярод іншых магчымасцяў ён можа нават перакладаць гаворку з 9 моў у тэкст альбо голас.

**Ватыкан.** Новы Папа Рымскі Францішак рашуча адрокся ад шматлікіх атрыбутаў раскошы, якія былі ўласцівы пантыфікам у мінулым, таксама ён адмовіўся ездзіць на браніраваным аўто.

**Бельгія.** Вядомы акцёр Жэрар Дэпард'ё з грамадзянствам РФ з'ехаў з Расіі, купіў чарговы дом ля французскай граніцы і рашыў адкрыць у мястэчку Нэшэн свой невялікі рэстаран.

**Украіна.** Многіх украінцаў абурыў сюжэт аднаго з расійскіх дзяржаўных тэлеканалаў, які назваў іх народнага песняра Тараса Шаўчэнку "антырасійскім паэтам другога гатунку".

**Расія.** Урад Свярдлоўскай вобласці падтрымаў ініцыятыву Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь аб стварэнні мемарыяла і помніка народнаму артысту СССР У. Мулявіну ў Екацярынбургу.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Следчыя МУС Беларусі выявілі буйныя крадзяжы бюджэтных сродкаў падчас рэканструкцыі летась малочнатаварных ферм, 485 аб'ектаў (40 %) здалі толькі на паперы.

**Бабруйск.** Значна скараціўся час у дарозе да Мінска пасля электрафікацыі ўчастка ад Асіповіч, бабруйчане марылі аб такіх паездках у электрычках яшчэ з савецкіх часоў.

**Брэст.** Расійская кампанія "Вастэга" наладзіла ў горадзе выпуск маянэзаў і соусаў пад палітычным брэндам "Батькино Лукошко", яна таксама выпускае гарэлку "Путинка".

**Лагойск.** На вытворчых плошчах філіяла "Амкадор" у райцэнтры выпусцілі навінку – шасцікалёсны харвестэр павышанай прахадзімасці для нарыхтоўкі хвойнай драўніны.

**Магілёў.** З канвейера ААТ "Магатэкс" сышоў двухмільярдны метр тканіны, тут ужо 70 % прадукцыі адгружаюць на экспарт, пачалі выпускаць тканіны для дамашняга інтэр'еру.

**Барысаў.** Мясцовы завод медпрэпаратаў так і не змог знайсці сабе за 6 гадоў інвестара для ўзвядзення новага таблетачнага корпуса коштам 36 млн. $, узяў банкаўскі крэдыт.

**Мазыр.** Сведкі пацвердзілі, што ў міліцыі не было іншага выйсця, як прымяніць зброю супраць крайне агрэсіўных п'яных маладых хуліганаў ля рэстарана "Элада".

**Дзяржынск.** На моцным падпітку маладыя кіраўнік СТА і галоўны інжынер фірмы збілі мясцовых міліцыянераў, парвалі іх форму, пакуль дэбашыраў не супакоіў новы нарад.

**Гродна.** Супраць журналіста польскай "Газеты выборчай" Андрэя Пачобута спынілі крымінальную справу за адсутнасцю складу злачынства і знялі падпіску аб нявыездзе.

**Ашмяны.** Раён набыў гістарычныя касцюмы для правядзення фестывалю "Гальшанскі замак" з рыцарскім турнірам і прадстаўленнем сумесна з Віленскім раёнам Літвы.

**Мінск.** Для размяшчэння гасцей чэмпіянату свету па хакеі 2014 года вырашана задзейнічаць акрамя 33 сталічных гасцініц ( з іх 11 новых) яшчэ 12 студэнцкіх інтэрнатаў.

**Пінск.** За спробу скрасці казу ў сваёй суседкі 30-гадовы гараджанін атрымаў 9 месяцаў пазбаўлення волі, яго падзельніка накіравалі на прымусовае лячэнне ад алкагалізму.

**Бабруйск.** З дапамогай папулярнай тэлепраграмы "Жди меня" адразу 4 выхаванцы школы-інтэрната знайшлі сваіх родных, адну з іх забрала старэйшая сястра да сябе на Камчатку.

**Гомель.** У сотню самых багатых людзей свету з актывамі 14,4 млрд. $ увайшоў 41-гадовы ўраджэнец горада Андрэй Мельнічэнка, старшыня савета дырэктараў "ЕўраХіма".

**Мінск.** Старшыня Белтэлерадыёкампаніі Г. Давыдзька заявіў, што летам сёлета плануецца запусціць платны спартыўны тэлеканал "Беларусь-5" разам з расійскім каналам "Спорт 2".

## У ВНУ пачаліся прафесійна-псіхалагічныя сумоўі



■ БелаПАН

**5 красавіка ў вышэйшых навучальных установах Беларусі пачалося правядзенне прафесійна-псіхалагічнага сумоўя. Выпрабаванне будзе праходзіць да 30 красавіка ўключна ў адпаведнасці з графікамі, зацверджанымі ВНУ.**

Так, сумоўе ў Беларускім дзяржаўным універсітэце пройдзе 9, 16 і 23 красавіка, паведамілі ў прэс-службе ВНУ. Для яго правядзення сфармавана 32 камісіі, у складзе якіх будуць працаваць выкладчыкі спецыялізуемых кафедраў (60% складу), прафесійныя псіхолагі і спецыялісты па працы з моладдзю (20% складу), а таксама прадстаўнікі міністэрстваў замежных спраў, інфармацыі, юстыцыі, Дзяржаўнага мытнага камітэта, Генеральнай пракуратуры, Вярхоўнага і Вышэйшага гаспадарчага судоў.

Нагадаем, выпрабаванне праводзіцца ў форме гутаркі спецыяльнай камісіі з абітурыентам, мэта якой - «вызначыць матывацыю паступлення, ацаніць асобасныя якасці, агульны ўзровень развіцця будучага студэнта».

У гэтым годзе ў БДУ на сумоўе зарэгістраваліся 3122 абітурыенты, гэта на 10% менш, чым у мінулым. Усяго на прафесійна-псіхалагічную гутарку ў ВНУ запісаліся 13 тыс. 403 абітурыенты, што на 1.145 менш, чым падчас леташняй уступнай кампаніі.

Прайсці сумоўе неабходна для паступлення на ўсе формы атрымання вышэйшай адукацыі па спецыяльнасцях: «Дзяржаўнае кіраванне», «Дзяржаўнае кіраванне і права», «Дзяржаўнае кіраванне і эканоміка», «Міжнародныя адносіны», «Міжнароднае права», «Правазнаўства», «Эканамічнае права», «Журналістыка» (у тым ліку, калі яна з'яўляецца дадатковай спецыяльнасцю), «Міжнародная журналістыка» і «Мытная справа» .

## Наймальнікі ў Беларусі атрымаюць права змяняць рэжым працы ў моцны мароз ці спёку

**Папраўкі ў закон "Пра ахову працы" дадуць наймальнікам магчымасць змяняць рэжым працы пры моцнай спякоце ці моцным марозе, паведаміла сёння міністр працы і сацабароны Мар'яна Шчоткіна, выступаючы на паседжанні Палаты прадстаўнікоў.**

Папраўкі ў закон дакранаюцца ў тым ліку дадатковых спецыяльных перапынкаў у неспрыяльных пагодных умовах. "Апроч перапынкаў, злучаных з асаблівасцямі выканання асобных выглядаў прац, наймальніку падаецца права прымаць рашэнні пра змену рэжыму працы пры моцнай спякоце ці моцным марозе", - растлумачыла Мар'яна Шчоткіна. Яна адзначыла, што раней пры экстрэмальных пагодных умовах было шмат заяў, у тым ліку ад прафсаюзаў.

Пры гэтым міністр растлумачыла, што гідраметэаролагі разумеюць пад моцнай спякотай тэмпературу паветра плюс 30-34 градусы, пад моцным марозам - мінус 25-34 градусы.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Фірма "Марко" завяршыла распрацоўку нарматыўных дакументаў па стварэнні абутковага холдынга ў складзе групы кампаній, да іх далучыцца таксама і Віцебскі мехавы камбінат

**Орша.** Калектыў мясцовага льнокамбіната стаў у ліку 15 па краіне лаўрэатам прэміі ўрада Беларусі за дасягненні ў галіне якасці 2012 года, выпуск канкурэнтназдольнай прадукцыі.

**Расоны.** У доме жыхара вёскі Рудня, які гандляваў мясам, знайшлі незаконна забітага лася і зноў незарэгістраваную стрэльбу, яму пагражае штраф 9,5 мільёнаў рублёў і да 3-х гадоў турмы.

**Наваполацк.** Мясцовая фірма "Любава-Люкс" дамовілася з партнёрам з Польшчы да канца года пабудаваць новую трыкатажную фабрыку па вытворчасці адзення.

**Віцебск.** Знос асноўнага абсталявання на ААТ "Кераміка" дасягнуў 80 %, на пачатак яго мадэрнізацыі патрэбна каля 80 мільярдаў рублёў, пачалі ўзводзіць толькі новую сушылку цэглы.

**Сянно.** Упершыню фонд "Віцебскаблмаёмасць" выставіў на продаж з аўкцыёна будынак былой пустуючай пошты тут і ў Расонскім раёне для рэканструкцыі пад жыллё.

**Глыбокае.** У ацяпляльным сезоне ў раёне ўдалося сэканоміць 4,2 тысячы тон умоўнага паліва, з 137 кацелень 12 працавалі на газе, большасць – на мясцовых відах паліва.

**Дуброўна.** Больш 60 чалавек атрымалі ў райцэнтры дыпломы, прэміі і памятныя сувеніры пераможцаў штогадовага раённага агляда-конкурса "Лепшы па прафесіі" па выніках года.

**Верхнядзвінск.** На пункце пропуску "Бігосава-2" мытнікі і пагранічнікі зноў знайшлі і затрымалі ў вагоне з вугалем на Латвію 9 тысяч пачак кантрабандных цыгарэт.

**Наваполацк.** У гаражы 29-гадовага мужчыны міліцыя выявіла і знішчыла падпольную лабараторыю для вырошчвання канаплі для наркотыкаў, за гэта яму пагражае да 13 гадоў турмы.

**Полацк.** У мясцовым педагагічным каледжы адбыліся ўрачыстасці з нагоды 140-годдзя з дня заснавання, яго выпускнікамі за гэты час сталі больш 36 тысяч выдатных спецыялістаў.

**Віцебск.** На плошчы каля Свята-Успенскага кафедральнага сабора на Успенскай горцы адкрылі 5-метровы гранітны помнік у гонар найсвяцейшага патрыярха Алексія II.

**Паставы.** З розных куткоў Беларусі сабраліся людзі ў касцёле І. Хрысціцеля ў Камаях на свята памяці святара і паэта Казіміра Сваяка, тут ён пачаў шлях служэння Богу і народу.

**Лёзна.** Адзіным прадстаўніком Беларусі на буйной міжнароднай агратурыстычнай выставе ў Мадрыдзе стала гаспадыня мясцовай аграсядзібы "Рэзідэнцыя" Ніна Ніканава.

**Наваполацк.** З нагоды 55-годдзя горада нафтахімікаў агенства БЕЛТА ў маі выпусціць багата ілюстраваны фотаальбом на 160 старонках, сапраўдны фоталетапіс гісторыі краю.

***Служба інфармацыі "ВГ".***

**Онлайнавая канферэнцыя Барыса Кіта напярэдадні 95-годдзя на вэбсайце беларускай службы Радыё Свабода ў 2005 годзе.**

[ 03/04/2005 00:43 ]

**Прывітанне, шаноўны спадар Барыс! На колькі мне вядома пэўная частка Вашага жыцця звязаная з Глыбокім. Я чытаў, што пад нямецкай акупацыяй Вы знаходзіліся тут у вязніцы, чакаючы прысуду. Ці не маглі б Вы больш дакладна лакалізаваць гэтае месца. Што гэта быў за будынак, альбо месца? Мне гэта цікава як краязнаўцу і журналісту. Віншую вас з Днём нараджэння! З пашанай, Уладзімір Скрабатун, выдавец газеты «Вольнае Глыбокае».**

– Гэта было маё падарожжа з Паставаў, дзе я быў дырэктарам настаўніцкай сэмінарыі, і я ехаў у Маладэчна, каб заняць пасаду дырэктара Адміністрацыйна-гандлёвага інстытуту. Калі я зьмяняў цягнік у Крулеўшчыне, нямецкая жандармэрыя мяне западозрыла. Яны правяралі ўсіх у цягніку, але ў мяне знайшлі шмат дакумэнтаў, і гэта яшчэ больш выклікала падазрэньні, што я маю сувязь з партызанамі. Мяне паслалі ў Глыбокае. Я правёў там 30 дзён. Гэта была не зусім турма, а проста адзін з падвалаў. Які гэта быў дом, я не памятаю. Гэта былі 30 дзён у страшэнных умовах. Кожны дзень прыганялі новых людзей, падазраваных у сувязях з партызанамі. Кожны дзень расстрэльвалі каля 25 чалавек. Нас было 30, заставалася 5. І кожную ноч расстрэльвалі. І кожны дзень наганялі новых 25, каб выканаць гэтую «норму» 30 чалавек у камэры. Кожны дзень расстрэлы. Пасьля 30 дзён жандармэрыі ў Глыбокім усё ж такі не расстралялі мяне, але выслалі ў Вілейку, у галоўную штаб-кватэру СД гестапа. А там я быў толькі некалькі дзён, бо ў Вілейцы ў той час упаўнаважаны, памочнік нямецкага адміністратара, быў беларус, які тлумачыў немцам справы і акалічнасьці. Ім быў Кастусь Касяк, мой былы вучань. Ён як пачуў, што я ў турме, пайшоў да ўладаў і дамогся, каб мяне вызвалілі.

# Неверагодна! Былому вязню глыбоцкай турмы Барысу Кіту – 103 гады!

Барыс Кіт — навуковец у галіне астранаўтыкі, матэматык, фізік, хімік, PhD ў галіне матэматыкі і гісторыі навукі, заслужаны прафесар Мэрылэндскага ўніверсітэта(ЗША), акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, найстарэйшы сябар Амерыканскага таварыства астранаўтыкі, ганаровы сябар Брытанскага міжпланетнага таварыства, сябар камітэта міжнароднай Акадэміі астранаўтыкі (Парыж), уладальнік залатога медаля імя Оберста, шматлікіх прэстыжных міжнародных прэмій, Ганаровы доктар навук Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы… Адных навуковых званняў, заробленых за доўгае жыццё, хопіць на старонку.

Ён нарадзіўся на пачатку мінулага стагоддзя, у 1910 г. Нарадзіўся ў Пецярбургу, дзе працаваў ягоны бацька, потым сям'я вярнулася на Наваградчыну.

Шлях Барыса Кіта ў навуку пачаўся ў міжваеннай Польшчы. Ён выкладаў у Віленскай беларускай гімназіі матэматыку, у 1939 г. быў яе дырэктарам, потым узначаліў Наваградскую беларускую гімназію. Падчас нямецкай акупацыі арганізаваў беларускамоўныя школы ў Лебедзеве, настаўніцкую семінарыю ў Паставах, Маладзечанскую гандлёва-адміністрацыйную школу, навучанне ў якой выратавала ад прымусовага вывазу ў Нямеччыну дзясяткі, калі не сотні юнакоў. Кіта арыштоўвалі немцы, ён сядзеў у глыбоцкай вязніцы. Цудам уцікнуў смяротнага пакарання.

Гэта цяпер Барыс Кіт — ганаровы грамадзянін Навагрудка, а ўлетку 1944-га ён мусіў эміграваць. Асветніцкая дзейнасць на акупаванай немцамі тэрыторыі з прыходам саветаў ператваралася ў смяротны прысуд. У 1948 г. Кіт перабраўся ў ЗША, пасяліўся ў Саўт-Рыверы, спрычыніўся да заснавання новай беларускай калоніі ў гэтым гарадку, быў адным з кіраўнікоў Злучанага беларуска-амерыканскага дапамаговага камітэта. Потым выехаў у Каліфорнію, дзе адышоў ад грамадскай дзейнасці, але ўшчыльную заняўся даследаваннямі ў касмічнай галіне. Падрыхтаваў падручнік аб паліве для ракетных рухавікоў.



У 1972 г. пераехаў з ЗША ў Нямеччыну, у Франкфурт-на-Майне. Зараз жыве ў доме для старых людзей. 6 красавіка тамтэйшыя беларусы прыязджаюць павіншаваць яго з народзінамі.

Нягледзячы на мафусаілаў век, Барыс Кіт не губляе бадзёрасці і аптымізму. Хоць і скардзіцца часам, што «стаў трохі горай бачыць і чуць» і «ўжо практычна не працуе».

***Паводле пп.by***

# Адкуль я ўзяўся? Бацян у дзюбе прынёс!

■ Уладзімір Скрабатун

**Дзеці ў раннім ўзросце часта маці ці бацьку задаюць пытанне, якое іх ставіць у тупік: «Адкуль я ўзяўся?»**

Маці ці бацька вымушаныя тлумачыць свайму дзіцяці сакраментальныя абставіны яго з'яўлення так, як ім жа тлумачылі іхнія ж бацькі ў дзяцінстве: «Бацян у дзюбе прынёс!» А як жа яшчэ!

Праўда, ёсць і іншыя тлумачэнні. «Знайшлі ў капусце!», «Знайшлі ў бульбе». Ну, гэта ўжо ў іншы раз, калі дзіця з першага разу так і не паверыла, што яго мог прынесці бацян.

Але чаму бацькі тлумачаць свайму дзіцяці абставіны яго з'яўлення менавіта так: «Бацян у дзюбе прынёс!»?

А вось вы, шаноўнае спадарства, ведаеце, чаму дзяцей прыносяць бацяны? Я задаваў шмат каму гэтае пытанне, і ні разу ніхто на яго не адказаў...

На гэтае пытанне ёсць досыць уцямнае тлумачэнне этнографаў. Даследуючы старажытныя купальскія песні, яны знайшлі адназначны адказ, які не дае ні ценю сумневу ў яго праўдзівасці.

Рэч у тым, што ў каротkую купальскую ноч моладзь збіралася каля рэчкі, каля вогнішча. Гэтая ноч вызначалася незвычайнай сэксуальнай разбэшчанасцю. Дзеўкі гублялі сваю цноту.

І вось, роўна праз дзевяць месяцаў, на 25 сакавіка, пачыналі нараджацца дзеці, якія былі зачатыя ў тую кароткую купальскую ноч.

Аднак, прычым тут бацян? Як раз і прычым! Менавіта на 25 сакавіка ў Беларусь, зазвычай, з выраю прылятае бацян (альбо бусел – на усходзе Беларусі). То, хто вінаваты? Бацян, зразумела!

# Буслы прыляцелі!

■ Яўген Самсонаў

**Вясна ў гэтым годзе запазнілася.**

По народным павер'і, на прыканцы сакавіка ў наш край прылятаюць з выраю 40 відаў птушак. У сераду, 4 красавіка, на палігоне цвёрдых бытавых адходаў, бліз вёскі Сарокі, што ў Глыбоцкім раёне, былі заўважаны шпакі, чайкі і буслы.

Калі шпакам, чайкам і іншым птушкам нejak лягчэй знайсці корм і прытулак у нашай, яшчэ заснежанай і з адчувальнымі марозцамі мясцовасці, то нацыянальнай беларускай птушцы, каб выжыць, прыйдзецца зведаць нямала пакутаў. Не выключана, што шмат з іх, знясіленых цяжкім пералётам, проста загіне ад холаду і голаду.

Звычайна, трапіўшы ў цяжкое, крытычнае становішча, звер ці птушка шукае дапамогу ў чалавека, хінецца да яго. Таму заклікаю, убачыўшы знясіленую птушку, не будзьце абыякавымі, дапамажыце ёй!



# Мінпрыроды заклікала беларусаў не збіраць у лясах першацветы

**Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя заклікала беларусаў не збіраць у лясах першацветы.**

Як паведаміла галоўны спецыяліст упраўлення біялагічнай і ландшафтнай разнастайнасці Мінпрыроды Ксенія Панцялей, у Беларусі колькасць раслін, што рана зацвітаюць,няўхільна скарачаецца. Для многіх відаў прычына гэтага — масавы збор, пры якім адбываецца пашкоджанне каранёвай сістэмы раслін.

Дарэчы, збор гэтых раслін забаронены па законе і караецца штрафам ад 20 да 50 базавых велічынь (ад 2 млн. да 5 млн. рублёў).

***БелаПАН.***

# Лукашэнка даручыў правесці 20 красавіка суботнік «на добраахвотнай аснове»

Аляксандр Лукашэнка даручыў ураду, рэспубліканскім органам дзяржкіравання, мясцовым выканаўчым і распарадчым органам арганізаваць правядзенне «на добраахвотнай аснове» 20 красавіка рэспубліканскага суботніка на працоўных месцах або правесці добраўпарадкаванне населеных пунктаў, мемарыяльных комплексаў, месцаў баявой і воінскай славы, пахаванняў воінаў і партызан Вялікай Айчыннай вайны, а таксама падрыхтоўку дзіцячых аздараўленчых лагераў да летняга сезона.

Паводле звестак прэс-службы прэзідэнта, палова сродкаў, заробленых падчас суботніка, будзе накіравана на падрыхтоўку дзіцячых аздараўленчых лагераў да летняга сезона, у тым ліку на развіццё і ўмацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы, а таксама на рэалізацыю мерапрыемстваў па правядзенні ў 2013 годзе Года ашчаднасці. Другая палова сродкаў пойдзе на набыццё спецыяльных аўтамабіляў хуткай медыцынскай дапамогі з поўнай камплектацыяй іх медыцынскай тэхнікай і іншым абсталяваннем, неабходным для правядзення рэанімацыйных мерапрыемстваў.

***БелаПАН.***

# У бедах магазіна будматэрыялаў вінаватая чыгунка?

■ Яўген Самсонаў




Нярэдка бывае, што зайшоўшы ў які-небудзь з вонкавага выгляду прывабны офіс ці краму, губляецца настрой і адпадае жаданне надалей мець тут нейкія стасункі ці рабіць пакупкі.

Прысутнічае нейкі дыскамфорт, і прыходзіць нежаданне далейшага агляду і выбару патрэбнага тавару. Хаця асартымент выдатны і ўсё раскладзена, як кажуць, па паліцах. Падобныя адчуванні ўзніклі, калі аўтар гэтых радкоў завітаў у дзяржаўную краму "Будматэрыялы", што месціцца на скрыжаванні вуліц Маскоўскай і Чыгуначнай у Глыбокім.

Пераступіў парог гэтай крамы і адразу ўбачыў: са столі нешта капае, а на падлозе засцеленая плёнка ды стаіць банка, куды капае вада.

*– Ды колькі разоў рамантавалі дах, а ён усё роўна цячэ! – ветліва патлумачылі прадаўцы магазіна. – Чыгунка, што знаходзіцца побач, вінаватая. Гэта – наступствы вібрацыі, якую ўтвараюць цягнікі, якія штораз праходзяць побач. Трэскаюцца сцяжка і смала на даху.*

Застаецца толькі паспачуваць прывабным супрацоўніцам «Будматэрыялаў» ды і іх наведвальнікам, што зробіш, такое жыццё – бывае што і шавец ботаў ходзіць басанож. А мо і сапраўды, трэба зрабіць больш надзейны дах, каб не цёк. З металадахоўкі, напрыклад! Бо і спякотнае лета, без цягнікоў, можа нарабіць шмат праблемаў з тым дахам...



# Разводдзе!

## Пакуты жыхароў вуліц г. Глыбокае

■ Яўген Самсонаў

Сапраўды пакутуюць людзі на вуліцах, якія па распараджэнні Глыбоцкага райвыканкама павінны абслугоўваць прадпрыемствы і арганізацыі горада. Тэлефануюць аўтару гэтых радкоў, просяць сфатаграфаваць, напісаць аб іх бедах у прэсе, так бы мовіць паслаць "Запыт да дэпутатаў Глыбоцкага раённага савета".

*– Няўжо мы, сапраўды забытыя начальствамі, і яны нічога не бачаць, што іх рашэнні - пусты гук, – усхвалявана абураўся суразмоўца.– Бедавалі зіму, калі засыпала снегам і нікога гэта не турбавала, і цяпер, калі вуліцы раскіслі і ўсе ў калдобінах ад нерасчышчанага і ўтаптанага за зіму снегу, а раніцой скаванага і марозам. А на працу, дзеткам у школу і садзік трэба хадзіць штодня і ў тэрмін. Дый хутка пацяплее – зноў паводка, якая не міне нашых падворкаў. Няхай бы асабістым пунктам у гэтым распаражэнні абавязалі кіраўнікоў прадпрыемстваў і арганізацый, абавязкова пасля снегападу, аб'язджаць па замацаваных вуліцах. Я пагляджу, як бы яны на ўласным аўто – той ці іншы кіраўнік – праехаў па нашай вуліцы і што адбылося б з тэхнічным станам яго аўтамабіля. Проста людзі ў нас юрыдычна неадукаваныя, церпялівыя і моўчкі трываюць. У прававодй дзяржаве па судах бы зацягалі, і ці вытрымаў бы бюджэт віноўных арганізацый на выплату штрафаў і за кампенсацыю матэрыяльнай і маральнай шкоды.*



Разводдзе на вуліцы Чкалава.



Разводдзе на завулку Кірава.

Я цалкам згодны з меркаваннем гэтага грамадзяніна і здымкі, якія я зрабіў, адрасую ў першую чаргу дэпутатам раённага Савета, якія білі кулаком сабе ў грудзі, абяцаючы ўпарта адстойваць правы і інтарэсы сваіх выбаршчыкаў. Таму, шаноўныя дэпутаты, з акрэсленых вуліц Вашай акругі (вул.: Я.Коласа, Заслонава, Чкалава, зав. Кірава ды і шмат іншых), можаце лічыць змест гэтага артыкула афіцыйным запытам Вашых выбаршчыкаў і можаце даць адказ у каментарах на сайце http://westki.info/ і газету "Вольнае Глыбокае".

# Еўрапейскія і паўночнаамерыканскія кампаніі праяўляюць цікавасць да асваення шэрагу беларускіх радовішчаў карысных выкапняў

**Пра гэта паведаміў дырэктар дэпартамента па геалогіі Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Уладзімір Варакса 4 красавіка на прэс-канферэнцыі ў Мінску.**

Ён нагадаў, што 22 снежня 2012 года з мэтай прыцягнення ў Беларусь замежных інвестыцый Мінпрыроды аб'явіла конкурсы па перадачы ў канцэсію радовішчаў: гліны **Кураполле і Голбіца ў Пастаўскім раёне** Віцебскай вобласці; пясчана-гравійнага матэрыялу Пераносінскае Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці; пяску і пясчана-гравійнага матэрыялу **Улессе Докшыцкага раёна** Віцебскай вобласці; гаручых сланцаў Тураўскае Столінскага раёна Брэсцкай вобласці і Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці.

Як заявіў Варакса, асаблівую цікавасць як у замежных, гэтак і беларускіх інвестараў выклікалі радовішча гаручых сланцаў Тураўскае і радовішча мелу Добрушскае. Беларускія і расійскія кампаніі праяўляюць таксама «некаторую зацікаўленасць» двума радовішчамі пясчана-гравійных сумесяў.

«Ёсць надзея, што па гэтых аб'ектах конкурсы адбудуцца. У адрозненне ад таго, як у 2009 годзе, калі мы ў першы раз праводзілі чатыры конкурсы, яны не адбыліся з-за адсутнасці прапанов канкурсантаў», — сказаў Варакса.

Паводле яго слоў, вынікі конкурсаў будуць падведзеныя 25 чэрвеня. Цягам гэтага года Мінпрыроды таксама мяркуе аб'явіць конкурсы па перадачы ў канцэсію радовішчы гіпсу Брынёўскае Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці, жалезных руд Акалаўскае Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці, бентанітавых глін Астражанскае Лельчыцкага раёна Гомельскай вобласці.

***А. Янушэўская, БелаПАН.***

# Приглашаем на службу в органы внутренних дел

**ОТДЕЛ ВНУТРЕННИХ ДЕЛ ГЛУБОКСКОГО РАЙИСПОЛКОМА** проводит отбор граждан на службу в органы внутренних дел на должности рядового и младшего начальствующего состава. Приглашаются юноши в возрасте до 25 лет, имеющие среднее, среднее специальное образование, годные по состоянию здоровья к службе в Вооруженных Силах. Гарантируется высокая заработная плата, государственное страхование, возможность получения высшего образования. Приглашаем выпускников средних школ района, а также граждан в возрасте до 25 лет продолжить обучение в учреждениях образования МВД Республики Беларусь: «Академия МВД Республики Беларусь» и «Могилевский высший колледж МВД Республики Беларусь».

Для получения дополнительной информации обращаться в группу кадров Глубокского РОВ Д. Контактные телефоны: 2-25-39, МТС: 7118496, 3054034, ВЕЛКОМ: 3454034.

*Заместитель начальника отдела внутренних дел Глубокского райисполкома* ***И.П.Шишко.***

# Віншаванкі

## Вольгу Васільеўну Парфяновіч

**Поздравляем з днём рождения**

Кипит работа повседневно, но вот среди обычных дней
Вдруг наступает День рожденья, чудесный праздник – веселей!
Хотим пожелать здоровья, удачи, успехов в жизни, ярких дней,
Чтоб ты с улыбкой, не иначе, встречала каждый новый день.
Пусть в жизни твоей будет много цветов,
И нежных улыбок, и ласковых слов,
Желаем всем сердцем сегодня тебе:
Будь самой счастливой на этой Земле!

*Калектыў «ВГ».*

# У Беларусі пачнуць пошук радовішчаў сланцавага газу

**У Беларусі пачнуць пошук радовішчаў сланцавага газу, паведаміў дырэктар дэпартамента па геалогіі Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Уладзімір Варакса 4 красавіка на прэс-канферэнцыі ў Мінску.**

Паводле яго слоў, летась быў заключаны канцэсійны дагавор тэрмінам на 10 гадоў з кампаніяй, зарэгістраванай у Швейцарыі, на выкананне работ па пошуку радовішчаў сланцавага газу. Зараз яна спрабуе прыцягнуць у Беларусь кампаніі, якія валодаюць спецыяльнымі тэхналогіямі па пошуку сланцавага газу.

Як паведаміў Варакса, яшчэ да заключэння канцэсійнага дагавора беларускія спецыялісты з прыцягненнем замежных калег ацанілі магчымасці здабываць у Беларусі сланцавы газ. Згодна з папярэдняй ацэнкай, «пэўныя перспектывы» ёсць.

Усяго для пошуку радовішчаў сланцавага газу выдзелена восем участкаў: пяць — у Прыпяцкім прагібе (Гомельская вобласць, а таксама частка Магілёўскай і Мінскай абласцей) і тры — у Падляску-Брэсцкай упадзіне (Брэсцкая вобласць).

У сваю чаргу намеснік генеральнага дырэктара, галоўны геолаг па нафце і газе геолагаразведвальнага РУП «Белгеалогія» Яраслаў Грыбік зазначыў: інфармацыя аб магчымасці атрымання сланцавага газу назапашана за 20—30 гадоў бурэння нафтавых свідравін на тэрыторыі краіны. «Раней на іх не звярталі ўвагі, бо не было тэхналогій здабывання сланцавага газу», — растлумачыў Грыбік.

***А. Янушэўская, БелаПАН.***

# МНС праверыла «Ломашы-Агра»

**Інспекцыяй дзяржаўнага пажарнага нагляду ў сакавіку 2013 года завершана правядзенне планавай праверкі філіяла «Ломашы-Агра» ААТ «СРСУ-3 г. Наваполацк» (дырэктар Лях Н.В.).**

Як паказала абследаванне, кіраўніцтвам суб'екта гаспадарання надаецца вызначаная ўвага забеспячэнню пажарнай бяспекі. Частка парушэнняў ухіленая падчас праверкі. Аднак маюць месца наступныя парушэнні:

✓ жывёлагадоўчыя будынкі (МТФ «Карасі», «Ломашы», «Кульгаі», комплекс КРС «Карасі»), цэнтральны склад, склад ГЗМ, не забяспечаны першаснымі сродкамі пажаратушэння, паводле нормаў неабходнасці;

✓ драўляныя будаўнічыя канструкцыі памяшканняў (МТФ «Карасі», «Ломашы», «Кульгаі»), складскіх будынкаў філіяла не апрацаваны вогнеабаронным саставам;

✓ будынкі і збудаванні (МТФ «Карасі», «Ломашы», «Кульгаі»), складскія будынкі філіяла не забяспечаны спраўнай маланкаабаронай;

✓ навучанне працаўнікоў мерам пажарнай бяспекі арганізавана не ў поўным аб'ёме (на МТФ «Карасі» ў журнале інструктажоў адсутнічаюць подпісы асобаў, якія прайшлі інструктаж, у журнале інструктажоў на комплексе КРС «Карасі» не ўказаны дакумент, на падставе якога праводзіўся інструктаж);

✓ на аб'ектах жывёлагадоўлі МТФ «Карасі», «Ломашы», «Кульгаі», не вызначаны і не абсталяваны месцы для курэння, паводле дзейсных патрабаванняў;

✓ водапанорная вежа побач МТФ «Карасі» на 600 галоў не прыстасаваная для забору вады пажарнымі аўтамабілямі (не ўсталявана палугайка);

✓ пажарныя краны ўнутранага супрацьпажарнага водаправода ў адміністрацыйным будынку філіяла не абсталяваны рукавамі і стваламі, якія заключаныя ў шафы, што адказваюць патрабаванням ДАСТ 12.4.009. Вонкавае афармленне пажарных шаф не адпавядае ДАСТ 12.4.026;

✓ пад'езды да пажарных вадаёмаў на МТФ «Карасі», комплексе КРС «Карасі», МТФ «Карасі» на 600 галоў не вычышчаны ад снегу;

✓ у пажарных вадаёмах побач МТФ «Карасі», МТФ «Ломашы», комплексе КРС «Карасі», МТФ «Карасі» на 600 галоў не ўладкованы палонкі памерам не меней 0,6х0,6 метра, якія павінны ўтрымоўвацца ў прыдатным для выкарыстання стане;

✓ на аб'екце жывёлагадоўлі МТФ «Карасі» не ўсталяваны паказальнік месца забору вады з воданапорнай вежы для вызначэння яго размяшчэння, няма магчымасці забору вады з вежы з-за намёрзшага на вежы лёду.

Па выніках праверкі кіраўніцтву ўручаны акт праверкі. Службовыя асобы, адказныя за пажарную бяспеку, прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці.

*Інспекцыя ДПН Глыбоцкага РАНС*

# У некаторых раёнах азімыя могуць ляснуць

**У некаторых рэгіёнах Беларусі азімыя могуць пацярпець больш значна, чым у мінулыя гады, паведаміў намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Васіль Паўлоўскі 4 красавіка на прэс-канферэнцыі ў Мінску.**

Паводле папярэдняга прагнозу, у паўночных раёнах Беларусі гібель азімых чакаецца ў межах дапушчальнага — 6–10%, у паўднёвых — прыкладна на 2% больш. Аднак, зазначыў намеснік міністра, умовы надвор'я «выклікаюць асцярогі». «Калі ў мінулыя гады ў пачатку сакавіка снег сыходзіў, то сёння цвёрдай скарынкай ушчыльнены снег ляжыць на палях — ад 10 да 30 см, а ў паўночных раёнах — і да 50 см», — сказаў Паўлоўскі. Пры гэтым у паўднёвых раёнах зямля «практычна не змёрзлая».

Паўлоўскі нагадаў, што ў 2010 годзе, калі гібель азімых прагназавалася ў межах дапушчальных 6–10%, на 5-7-ы дзень вегетацыі высветлілася, што загінула значна больш пасеваў, напрыклад да 50% усяго азімага рапсу. Давялося перасяваць 245 тыс. га каласавых і больш як 190 тыс. га рапсу.

Сёлета Мінсельгасхарч таксама гатовы да перасеву часткі азімых. У страхавым фондзе 66 тыс. тон насення, акрамя таго, міністэрства вядзе перамовы з сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі канцэрна «Белдзяржхарчпрам», якія могуць мець неабходнае насенне.

*БелаПАН*

# Скончыўся ацяпляльны сезон

**■ А.Ю. Рацьковіч,**
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МрА.*

**Зіма сёлета ніяк не жадае саступаць сваё месца вясне, але не гледзячы на начныя замаразкі, тэмпература вонкавага паветра ў дзённы час трымаецца дадатнай. У сувязі з гэтым энергаснабжаючыя арганізацыі і спажыўцы павінны праводзіць мерапрыемствы, якія накіраваныя на эканомію паліўна-энергетычных рэсурсаў у перыяд дадатных тэмператур вонкавага паветра.**

Так абласная аператыўная група па аптымізацыі цеплазабеспячэння і эканомнага выкарыстання паліва і энергіі на перыяд з дадатнымі тэмпературамі вонкавага паветра прыняла рашэнне, паводле якога энергаснабжаючымі арганізацыямі і спажыўцамі цеплавой энергіі, неабходна праводзіць наступныя мерапрыемствы:

● пры тэмпературы вонкавага паветра + 8 Сº і вышэй ацяпленне аб'ектаў праводзіць у рэжыме «працеплівання»;

● пры тэмпературы вонкавага паветра + 10 Сº і вышэй выкарыстоўваць для патрэб ацяплення і гарачага водазабеспячэння мясцовыя віды паліва;

● тэмпература ў адміністрацыйных і грамадскіх будынках у выходныя, святочныя дні і начны час не павінны быць вышэй + 12 Сº;

● у перыяд дадатных тэмператур вонкавага паветра, ацяпленне лесвічных пляцовак жылых дамоў, грамадскіх, адміністрацыйных будынкаў – адключыць;

● забяспечыць цвёрды кантроль за работай вонкавага і офіснага асвячэння, не дапушчаючы яго ўключэння ў светлы час сутак;

● не дапушчаць пераацяплення будынкаў.

Хацелася б нагадаць пра тое, што энергаснабжаючымі арганізацыямі спажыўцам цеплавой энергіі самы час падумаць пра распрацоўку мерапрыемстваў па падрыхтоўцы да наступнага ацяпляльнага сезону. Неабходна ўлічыць усе парушэнні ў энергазабеспячэнні, якія адбыліся ў гэтым сезоне, каб уключыць іх у распрацоўку новых мерапрыемстваў. Звяртаем увагу, што кіравацца пры падрыхтоўцы да АЗП 2013-2014, неабходна ТКП 388-2012 (02230/0230) «Правілы падрыхтоўкі і правядзення асенне-зімовага перыяду энергаснабжаючымі арганізацыямі і спажыўцамі цеплавой энергіі», якія ўступілі ў дзеянне з 1 верасня 2012 года, у адпаведнасці з якімі зменены тэрміны афармлення пашпартоў гатовасці да працы ў асенне-зімовы перыяд спажыўцоў цеплавой энергіі і цеплакрыніц (адпаведна 20 верасня і 1 кастрычніка). Дадзеным ТКП таксама прадугледжаны шэраг іншых патрабаванняў да парадку падрыхтоўкі і правядзення асенне-зімовага перыяду, якія адрозніваюцца ад раней дзейсных Правіл.

Па ўсіх пытаннях, якія ўзніклі падчас падрыхтоўкі да асенне-зімовага перыяду звяртацца за даведкамі ў цеплатэхнічную інспекцыю Глыбоцкага МрА па тэл. 8-02156-2-87-04.






*Вольгу Парфяновіч*

**віншуем з Днём нараджэння!**

Ольга, всегда улыбайтесь!
Пускай День рождения ваш
Несет только радость и счастье,
И ваши улыбки – для нас.



Прекраснее сказочной розы
Вы будьте всегда, как сейчас,
Навеки забудьте про слезы!
Все будет прекрасно у вас!

*Ад супрацоўнікаў «ВГ»*

*Алёну Леанідаўну Фурс*

**Віншуем з нагоды Дня народзін**

С Днем рожденья! Не беда,
Что проносятся года.
Мы желаем оптимизма,
Выше нос и больше жизни.
Пожелаем Вам добра,
Дома — полны закрома,
Счастья, радости, везенья,
Чумового настроенья.



*Сябры па працы*

# Спецыяльнае комплекснае мерапрыемства (СКМ) «Нагляд»

У выкананні плану асноўных арганізацыйных мерапрыемстваў Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь на першае паўгоддзе 2013 гада, у мэтах аздараўлення аператыўнага становішча, звязанае са здзяйсненнем правапарушэнняў асобамі, якія маюць асуджанасць, у перыяд з 9 па 17 красавіка 2013 года будзе праведзена спецыяльнае комплекснае мерапрыемства «Нагляд» (СКМ «Нагляд»). Асноўнымі задачамі з'яўляюцца: стабілізацыя крымінагеннага становішча ў раёне, аказанне садзейнічання ў працоўным і побытавым уладкаванні асобаў, якія прыбылі з месцаў пазбаўлення волі і тых, якія патрапілі ў цяжкую жыццёвую сітуацыю. У дадзеным мерапрыемстве прымуць удзел усе супрацоўнікі Глыбоцкага РАУС і ОДА «Ахова». Асноўныя высілкі будуць накіраваны на наведванне па месцы жыхарства асобаў раней асуджаных за злачынствы ў сферы сямейна-бытавых адносін, вывучэнне мікраклімату ў сям'і.

***С.П. Пятух,*** *начальнік крымінальна-выканаўчай інспекцыі Глыбоцкага РАУС маёр міліцыі.*

## МНС інфармуе
**на 09.04.2013 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 329;
Гібель людзей – 53, з іх 1 дзіця;
Урон – 2030,4 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 20;
Гібель людзей – 4, з іх дзяцей няма;
Урон – 203.7 руб.

# У Віцебску раскрыта забойства 17-гадовай даўніны. Дапамагла база адбіткаў пальцаў

**Віцебскімі следчымі раскрыта забойства, учыненае 17 гадоў таму ў зале гульневых аўтаматаў гарадскога кінатэатра «Беларусь».**

Пра гэта паведаміла афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Віцебскай вобласці Іна Гарбачова.

24 ліпеня 1996 года ў зале гульневых аўтаматаў быў знойдзены труп 27-гадовай касіркі з трыма нажавымі раненнямі ў спіну. Акрамя таго, у загінулай была ўкрадзеная жаночая сумка і грошы. Паводле паказанняў сведак, злачынца ўцёк з месца здарэння на аўтамабілі, уладальнік якога займаўся прыватным возніцтвам.

Раскрыць забойства стала магчымым з прыняццем закона «Аб дзяржаўнай дактыласкапічнай рэгістрацыі» і стварэннем адпаведнай інфармацыйна-пошукавай сістэмы.

Пасля праходжання абвінавачаным працэдуры дактыласкапіравання следчым УСК ад супрацоўнікаў экспертна-крыміналістычнага цэнтра УУС Віцебскага аблвыканкама была перададзена інфармацыі пра супадзенне зноў накіраваных у базу даных слядоў пальцаў рук з выяўленымі на месцы ўчынення злачынства ў 1996 годзе.

Неадкладна была прызначаная і праведзеная дадатковая дактыласкапічная экспертыза. Абвінавачаны апазнаны сведкам і дае прызнальныя паказанні.

Цяпер следства працуе з доказнай базай.

Крымінальная справа перакваліфікавана ў адпаведнасці з дзейным заканадаўствам. Мужчыну выстаўлена абвінавачанне паводле ч. 2 арт. 139 КК. Абрана мера стрымання ў выглядзе змяшчэння пад варту.

*БелаПАН*

